НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# Уперад, да 1990 года

## Новы кіраўнік Маладзечанскага райвыканкома плануе ўзняць раён на ўзровень 1990 года



*МАЛАДЗЕЧНА. Два тыдні, як Леаніда Зайца зацвердзілі на пасаду старшыні Маладзечанскага райвыканкома. Сустрэчу з новым кіраўніком дапамог арганізаваць аддзел інфармацыі раённай вертыкалі.*

**– Ці доўга вас угаворвалі ўзначаліць Маладзечанскі райвыканком?**

– Прапанова была нечаканая. І згадзіўся я не адразу. Маладзечанскі раён раней быў адзін з лепшых у вобласці. Заразумела, трэба яго выводзіць на страчаныя пазіцыі. Таму я нейкі час думаў, аналізаваў. Можа, пераканала тое, што стаж работы ў сельскай гаспадарцы маю вялікі. І свой пункт гледжання па многіх пытанях.

**– Вы, як чалавек не мясцовы і які ні разу не працаваў у выканаўчых структурах, на што, у першую чаргу, разлічваеце ў рабоце?**

– На свае сілы, таксама на "каманду". Пакуль не бачу неабходнасці мяняць кадры райвыканкома. Я буду ўлічваць асаблівасці кожнага, і кожны павінен мець магчымасць сябе праявіць.

**– Вашы першыя ўражанні ад знаёмства з раёнам?**

– Пакуль я наведаў не ўсе гаспадаркі. Быў ва «Усходзе», «Палачанах», «Кастрычніку».

На адказных пасадах спецыялісты працуюць перспектыўныя. Сваімі добрымі якасцямі людзі на Маладзечаншчыне і Случчыне падобныя.

**– У многіх выпрацаваўся вобраз кіраўніка–камандзіра. Вы неяк не ўпісваецеся ў стандарт.**

– Лічу, што калі кіраўнік павышае голас, то паказвае сваю слабасць. Ды і да кожнага трэба ставіцца з павагай. Асабліва да радавога працаўніка.

**– У вас ёсць нейкая праграма?**

– У мяне ёсць мэта: вывесці раён на паказчыкі 1990 года. Сёння ў сельскай гаспадарцы раёна сітуацыя складаная. Атрымалі 17 цэнтнераў збожжа з гектара – ніжэй запланаванага. З нарыхтоўкай кармоў таксама пытанні. Зімаваць будзем арганізавана, з тым запасам кармоў, які нарыхтуем.

**– Раскажыце пра вашу сям'ю.**

– Жонка працуе ў калгасе «Беларусь» на Случчыне. Дачка пайшла ў 11 клас. Я, калі ёсць час, люблю папрацаваць на агародзе. Напэўна, таму, што па прафесіі – аграном, скончыў беларускую сельгасакадэмію.

**– З Маладзечнам, кіраўніцтвам горада пазнаёміліся?**

– З горадам пакуль не пазнаёміўся, а вось з кіраўніцтвам – так. Яно разумее праблемы раёна.

**– Якія выпісваеце перыядычныя выданні? Як, наогул, ставіцеся да журналістаў?**

– Выпісваю «Беларускую ніву», «Мінскую праўду». А для журналістаў у мяне заўсёды адкрытыя дзверы.

**– Хто вы па гараскопе?**

– «Шалі». Аднак у гараскоп я не надта ўжо веру.

**– Як вы ставіцеся да беларусізацыі грамадства?**

– Падтрымліваю. І мне вельмі прыемна, што цяпер працую на радзіме Янкі Купалы.

**– Ваш любімы пісьменнік?**

– Міхаіл Шолахаў. Станоўчыя героі яго твораў – людзі прыстойныя. А гэтую якасць у людзях я найбольш цаню.

**– Што пажадаеце і гараджанам, і вяскоўцам?**

– Здароўя, бадзёрасці, аптымізму. Заўсёды верце ў сябе. Памятайце, не бывае сітуацый без выйсця.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

ВЫСТАЎКІ

# «Да зорак» запланавана на 28 жніўня



*Работы Андрэя Сакалова. Электронны архіў «Рэгіянальнай газеты».*

ВІЛЕЙКА. Другая выстаўка расійскага мастака Андрэя Сакалова ў Вілейкай выставачнай зале адкрыецца 28 жніўня – у дзень святкавання "афіцыйнага юбілею", 400–годдзя першай згадкі пра Вілейку.

У аснову выстаўкі ляглі новыя работы народнага мастака Расіі, сапраўднага члена Акадэміі інфарматыкі UNESCO, які вядомы як аўтар шматлікіх работ на касмічныя тэмы.

Вілейшчына прыцягвае Сакалова ,не толькі магчымасцю сустрэць удзячнага гледача, але і сваімі краявідамі. Мастак штогод адпачывае ля берагоў Вілейскага вадасховішча.

*Мікола ГАЙДУК.*

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

# У Маладзечне згарэла 100 дамоў

**М. Молодэчно, Віленскай губ., Вілейскага пав.**

18 загарэлася мястэчка і ўскорасьці агонь зніштожыў 100 дамоў.

Той самы.

**Г. Вілейка (павет).**

На дварэ тутэйшай лесапільні (тартаку) загарэлася адна будыніна; страх быў вялікі, бо вельмі шмат ляжыць леснога матэр'ялу а і ўселякіх будынін блізка збудаваных не мала. Але начальнік Ж. Д. станцыі прыслаў пажарные прылады; падскочыла гарадзкая пажарная каманда і неяк абаранілі.

Катя.

**М. Даўгінаво. Віленскай губ. Вілейскага пав.**

Адзін стражнік па злосьці схаваў стрэльбу свайго таварыша; той заявіў прыставу. Прыехаў спраўнік з Вілейкі на дазнаньне; стрэльбу знайшлі ў ямах, дзе бяруць гліну. Спраўнік прагнаў аднаго стражніка са службы, а іншым прыказаў перэбрацца с казармаў на новую кватэру.

С–кі.

*Першая Беларуская газэта з Рысункамі "Наша Ніва". №34 ад 20 аўгуста 1909 г.*

*Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.*

МЕДЫЦЫНА

# Традыцыйны летнік для традыцыйных лекараў

*МЯДЗЕЛ. 2 тыдні адзін з куточкаў паблізу ад возера Мястра быў апанаваны аматарамі нетрадыцыйных метадаў лячэння. Хаця якраз яны свае метады лічаць самымі што ні на ёсць традыцыйнымі — маўляў, адкуль, як не з гэтых каранёў "вырасла" афіцыйная медыцына?*

Арганізатар збору – Мікалай Озераў з Мядзела. Ён аўтар сістэмы лячэння "Нікалус". Калі сцісла, уяўляе яна сабой уключэнне ўласных біяэнергапатэнцыялаў ад таго, хто звяртаецца па дапамогу (тэрміна "хворы" не прымаюць, кожнага лічаць за роўнага, за патэнцыйнага лекара, які здольны аздаравіць, прынамсі, самога сябе).

– Цяпер у Латвіі 43% насельніцтва ідзе па дапамогу да народных лекараў,– гаворыць Мікалай Озераў.– На першым часе, а распачаліся гэтыя зборы на Мядзельшчыне ў 1989 годзе, удзельнічала толькі 9 чалавек, мае вучні. А далей далучаліся прадстаўнікі іншых накірункаў неафіцыйнай медыцыны.

У палатачным гарадку жыло каля сотні чалавек (у асобныя дні і больш) з розных мясцінаў Беларусі, з Масквы, Літвы, Латвіі, нават Германіі. Лекараў – чалавек трыццаць (псіхолагі, біяэнергетыкі, спецыялісты па масажы, траўнікі). Шмат людзей прыехала да іх за інфармацыяй і дапамогай у аздараўленні, багата дзяцей. Маленькай Зосьцы з Масквы пайшоў толькі трэці годзік, а яна ўжо трэці раз тут, упершыню – у 3-месячным узросце. Самаму старэйшаму – Аляксандру Іванавічу Шавяхову – ужо 70. Ён лекар і траўнік, мясцовы.

## "А вас што прывяло сюды?"

Гэтае пытанне задаваў шмат каму. Першым – Віктару і Каншаім Гуляевым. Яны псіхолагі. І не толькі. Паказалі адразу некалькі спосабаў, як здымаецца галаўны і зубны боль націсканнем на адпаведныя кропкі на руцэ. А для ўтаймавання "зубоў" Віктар прадэманстраваў і "шаманскі" метад: трэба памяняць месцамі шкарпэткі – з левай нагі на правую і наадварот.

Пара гэта сімпатычная і досыць каларытная: яна – азіяцкага тыпу, а ён – з добрай такой барадой, як у колішняга мужыка. Раней жылі ў Казахстане, цяпер у Баранавічах. Кансультуюць там нават і фірмы – вырашаюць праблемы ў адносінах у сям'і, з падначаленымі. На Мядзельшчыне яны ў восьмы раз:

– Мы ведаем, што нас тут чакаюць, тут нашыя добрыя сябры, з якімі мы ляцім сустрэцца, падзяліцца дабрынёй і ласкай, абмяняцца інфармацыяй.

Якраз за апошняй прыехаў Зіедоніс з Рыгі:

– Тут можна атрымаць тую інфармацыю, за якую ў іншым месцы трэба выкласці вялікія грошы.

Некалькі чалавек ёсць і на інвалідных калясках. Аляксандр з Гомеля:

– Пасля першага прыезду намаганнямі лекараў адчуў палёгку і на фізічным, і на духоўным узроўні. Я да хваробы быў мастаком, але ж пасля было не да гэтага. А цяпер вярнуся дадому – магчыма, і фарбы дастану.

Для Аляксандра з Баранавічаў усё ўпершыню:

– Мне сказалі, што тут "во такая атмасфера!". Так яно і ёсць. Я прыехаў крыху ў прыгнечаным стане, з праблемамі, а "паварыўся" тут – і ўсё знікла.

## Заняткі

Жывуць у гарадку адной вялікай сям'ёй. Ёсць і распарадак дня (неабавязковы). У 7 гадзін пад'ём, зарадка, снядaнак, Ежу гатуюць па чарзе, на паходнай кухні. Ежа простая: "капуста ды каша", салаты. Мяса і цукар стараюцца не ўжываць.

Цэлы дзень ідзе работа: афіцыйна ж усё гэта называецца "семінар–практыкум па аздараўленні". Падзяляюцца па інтарэсах: хто медытуе, хто абменьваецца інфармацыяй, хто аздараўляецца на сеансах у лекараў, у масажыстаў. Папулярнае і "сядзенне на мурашніку": мурашы ведаюць, дзе непарадак у арганізме, і кусаюць у болевыя кропкі. А перад тым, як парушыць спакой мурашоў, просяць у думках у іх прабачэння.

І лекцыі – па некалькі на дзень. Своеасаблівая лясная школа. Тэмы на любы густ. Прафесар народнай медыцыны Алег Рапапорт (ён з'яўляецца трэнерам–псіхолагам зборнай Беларусі па лёгкай атлетыцы) расказваў пра лячэнне камянямі, Наталля Клімоўская з Рыгі – пра астралогію. Каго цікавіць "жывая" і "мёртвая" вада – да аўтара кнігі "Чарадзейная вада" Георгія Лысенкі.

## Meile apglobsim Zeme

З літоўскага – "Ахінем Зямлю любоўю". Гэткі дэвіз бачыў у адным з куточкаў гарадка. За апошні час ён пабываў з Любоўю Рысноўскай з Вільнюса на трох такіх семінарах. Любоў, прэзідэнт эзатэрычнай школы і лекар–прафесіянал, тлумачыць так:

– На такіх семінарах збіраюцца людзі духоўнага разумення. І адсюль у прастору ідзе вялікі–вялікі паток любві, радасці, святла.

Сапраўды, у гарадку пануе атмасфера спакою і добразычлівасці. Ніхто не ўжывае спіртнога, не курыць. Пра канфлікты і гаворкі быць не можа: ва ўсіх усмешкі на вуснах. А дзе вы яшчэ пачуеце гучнае:

– Людзі, я вас люблю!

Любіць усіх і быць заўжды любімымі, здаровымі, радаснымі і шчаслівымі, знайсці душэўную раўнавагу і спакой у жыцці – пажаданне чытачам "Рэгіянальнай газеты" ад лекараў.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

ПРА ХЛЕБ

## Больш за два не прадаваць

АСТРАВЕЦ. Ноччу трэба спаць. Але многія жыхары райцэнтра, асабліва тыя, хто трымае ў сваёй уласнай гаспадарцы свіней, з гэтым могуць паспрачацца. Прычынай «бяссоння» стала чарга за танным, нізкай якасці, хлебам, які прадаецца ў краме «Кулінарыя» па 17 тысяч рублёў за бохан.

Адзін пакупнік можа купіць не больш за два боханы. Аднак для таго, каб іх купіць, трэба заняць чаргу ноччу, бо калі прыйсці за некалькі хвілін да адкрыцця крамы, зрабіць гэта не ўдасца. Відавочцы адзначаюць, што нават у 3–4 гадзіны ночы можна бачыць чаргу з прыкладна 20 чалавек.

Яно і зразумела: камбікорму для свінак купіць практычна немагчыма, а калі ён і з'яўляецца, то па вялікіх цэнах.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Хлеб у рэгіёне

Прачытала ў вашай газеце "Чэргі розныя бываюць". Мяне нікольні не здзівіла чарга за хлебам у Астраўцы, таму што смаргонскі хлеб сапраўды вельмі смачны. У нас у Турэц–Баярах яго таксама ўсе любяць, і не памылюся, калі скажу, што большая палова насельніцтва ездзіць у Смаргонь па хлеб і прадукты.

Мы знаходзімся амаль пасярэдзіне паміж Маладзечнам і Смаргонню. І раней, год 5 таму, ужо прывозілі да нас круглы хлеб са Смаргоні, і таксама заўсёды была чарга, куплялі сабе, бацькам, суседзям.

А чаму ў Маладзечне не могуць наладзіць выпуск круглага хлеба?

*З павагай Галіна КАЛАЧЫК, вёска Турэц–Баяры.*

НАВАСЕЛЛІ

## Для сямейных урачыстасцяў

ВІЛЕЙКА. У памяшканні Дома быту адкрылася зала сямейных урачыстасцяў на 70 месцаў.

Працуе яна пакуль па папярэдніх заказах. Але ў хуткім часе, асабліва па буднях, зала ператворыцца ў маладзёжны бар. Ужо закуплена абсталяванне для прыгатавання малочных кактэйляў.

*Аддзел інфармацыі.*

РЭАЛІІ

## Ні грошай, ні вады

СМАРГОНЬ. 60 мільярдаў рублёў за скарыстаны газ запазычыўся агрэгатны завод перад пастаўшчыкамі блакітнага паліва. Такім чынам, у мікрараёне "Карані", што знаходзіцца побач з заводам і ацяпляецца ад заводскай кацельні, пакуль што няма гарачай вады нават па выхадных і святочных днях.

Прадпрыемства тым часам спаўзае ўніз, бо яго прадукцыю – матаблокі і міні–трактары МТЗ–082 – цяпер амаль што не раскупляюць: яны каштуюць вельмі дорага.

*Павел МАКЛЮК.*

"РГ"–СТАТЫСТЫКА

## Дэмаграфія

СМАРГОНЬ. 263 дзіцяці нарадзіліся ў студзені–ліпені ў раёне. За гэты ж час памерла 415 чалавек.

Сёлета ў раёне выяўлена 42 чалавекі, хворыя на сіфіліс. Гэта заразная хвароба моцна прагрэсіруе. А "заляцеўшыя" маюць ад 16 да 80 гадоў.

*Павел МАКЛЮК.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

МАЛАДЗЕЧНА. Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 11.08 | 18.08 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 510 | 550 |
| Кілбаса салямі | 1 кг | – | – |
| Сасіскі | 1 кг | 780 | 780 |
| Селядзец салёны | 1 кг | – | 320 |
| Рыс | 1 кг | – | 280 |
| Цукар | 1 кг | 145 | 155 |
| Грэчка | 1 кг | – | – |
| Алей | 1 л | 470 | 450 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 150 | 179 |
| Маянэз | 250 г | 78 | 80 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 470 | 550 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 145 | 180 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 135 | 160 |
| Лімоны | 1кг | 480 | 500 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | – | – |
| Масла | 1 кг | – | – |
| Тварог | 1 кг | 120 | – |
| Малако | 1,5 л | 70 | – |
| Бульба маладая | 1 кг | 60 | 50 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 190 | 190 |

яблык «белы наліў» ........ 1 кг ................ 40
кавун ............................... 1кг ................ 90
капуста ............................ 2 кг ................ 70
агуркі ............................... 1 кг ................ 80
памідоры .......................... 1 кг ................ 140
алыча ............................... мал. вядро .... 350
сліва ................................. вял. вядро ..... 900

НЕЗВЫЧАЙНАЕ

## Бела–чорна–чырвоны дэсант

ВІЛЕЙКА. Жыхары вёскі Літвінкі былі ўражаныя і адначасова напалоханыя. На ўбранае поле сеў "дэсант" буслоў. Па прыблізных падліках, іх было каля 1 тысячы.

"Насатыя" паводзілі сябе ціха, праўда, людзей блізка не падпускалі. Гадзіны з дзве птушкі збіраліся і пакінулі Вілейшчыну, мабыць, да наступнага года.

Жыхары вёскі Барысаўшчына памятаюць такі ж дэсант буслоў у іх вёску. Гэта было 20 год таму. Тады птушкі нанеслі вяскоўцам страты: папавальвалі платы, сям–там пацярпелі дахі.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

*Персаналіі*

## Аляксандр Малашэвіч – чэмпіён Еўропы



*Галоўны спецыяліст аддзела па фізкультуры, спорце і турызме Сяргей Новік, бацька і першы трэнер А. Малашэвіча Мікалай Вікенцьевіч, чэмпіён Еўропы Аляксандр Малашэвіч, дырэктар ДЮСШ–1 Валерый Юрчанка, загадчык аддзела па фізкультуры, спорце і турызму райвыканкома Мікалай Фастаў, трэнер ДЮСШ–1 Станіслаў Барташэвіч.*

ФОТА МІХАІЛА РАЗУМНІКА.

*СМАРГОНЬ. Малавядомы дагэтуль лёгкаатлет са Смаргоні Аляксандр Малашэвіч кінуў дыск на чэмпіянаце Еўропы па лёгкай атлетыцы на адзнаку 63 метры 78 сантыметраў і стаў чэмпіёнам Еўропы 1999 года.*

Пачаў ён займацца лёгкай атлетыкай пад кіраўніцтвам свайго бацькі, трэнера ДЮСШ–1, у 1990 годзе. Скончыў сярэднюю школу №2. Спартсмена заўважылі, з ім пачаў займацца старшы трэнер ДЮСШ–1 па лёгкай атлетыцы Станіслаў Барташэвіч. Аляксандр паказваў усё лепшыя і лепшыя вынікі. Было прынята рашэнне аб накіраванні яго на вучобу ў рэспубліканскае вучылішча алімпійскага рэзерву, дзе ён вучыўся, трэніраваўся і выступаў на спаборніцтвах розных узроўняў на працягу трох гадоў.

Здольны юнак без асаблівых праблемаў паступіў на вучобу ў Акадэмію фізічнага выхавання і цяпер займаецца на трэцім курсе ў трэнера В. Сіўцова. У 1997 годзе ён выканаў нарматыў майстра спорту, а сёлета – і нарматыў майстра спорту міжнароднага класа.

Аляксандр – удзельнік юнацкага чэмпіянату свету ў Сіднеі, чэмпіянату Еўропы, якія праходзілі ў розны час у Венгрыі, Фінляндыі, Швецыі.

Асабліва гасціннай стала для яго паўночная шведская зямля. Пасля таго, як быў аб'яўлены вынік выступлення дыскабола са Смаргоні, шматлікія спартсмены, трэнеры, госці жыва зацікавіліся тым, адкуль прыехаў такі атлет, дзе нарадзіўся і шліфаваў сваё майстэрства.

– Шукайце Смаргонь на карце, – жартаўліва адказваў на такія пытанні Аляксандр.

Цяпер чэмпіён Еўропы рыхтуецца да чэмпіянату свету, які пройдзе 21 жніўня ў Севільі. Ён з'яўляецца кандыдатам на ўдзел у XXVII Алімпійскіх гульнях, якія пройдуць у Сіднеі ў 2000 годзе.

– Час чэмпіёна Еўропы распісаны літаральна па хвілінах, – гаварыў на ўрачыстым сходзе, прысвечаным ушаноўванню спартсмена, першы намеснік старшыні Смаргонскага райвыканкома Станіслаў Юргель. – Аляксандру вельмі бракуе часу, таму больш шырокае ўшаноўванне нашага знакамітага земляка правядзем пасля яго перамог на чэмпіянаце свету альбо Алімпійскіх гульнях. Аляксандр зрабіў для вядомасці Смаргоні ў Еўропе столькі, колькі не зрабіў яшчэ ні адзін працоўны вытворчы калектыў сваёй прадукцыяй. Нас будуць цяпер яшчэ лепш ведаць на захад ад Беларусі. Мы шчыра віншуем яго з чэмпіёнскім тытулам і жадаем паспяховых выступленняў у Севільі і Сіднеі.

Ад імя райвыканкома, калектыву ДЮСШ–1 Аляксандру Малашэвічу быў уручаны медаль, камандзірскі гадзіннік і іншыя каштоўныя падарункі. Загадчык аддзела фізкультуры, спорту і турызму Мікалай Фастаў выказаў цвёрдае перакананне, што Аляксандр Малашэвіч прывязе ў Смаргонь медалі і чэмпіянату свету, і Алімпійскіх гульняў.

*Павел МАКЛЮК.*

ЯК ПАЗБЕГНУЦЬ НЕПРЫЕМНАСЦЯЎ?

## Не стварайце злачынцам зручнасцяў

МАЛАДЗЕЧНА. У апошні час пачасціліся выпадкі крадзяжоў і грабяжоў рэчаў, грошай і іншых каштоўнасцяў у пасажыраў чыгуначнага транспарту.

25 ліпеня на пероне чыгуначнага вакзала прыпынка Гудагай у жыхаркі Смаргоні выкралі сумачку з грашыма і асабістымі рэчамі. Злачынца ўстаноўлены, ім аказаўся падлетак, які і раней меў канфлікты з крымінальным кодэксам, але ў сілу малалецтва ўхіляўся ад адказнасці.

У шматлікіх выпадках самі пацярпелыя ствараюць спрыяльную глебу для прахіндзеяў. Гэта распіццё спіртных напіткаў, азартныя гульні, пакіданне рэчаў пад нагляд незнаёмым людзям. Нярэдка пры распіцці спіртных і пражаладжальных напіткаў, чаю, злачынцы прымяняюць розныя снатворныя рэчывы, што можа прывесці да летальнага зыходу.

Можна параіць своечасова звяртаца да работнікаў міліцыі – у большасці выпадкаў гэта ўплывае на раскрыццё злачынства і затрыманне злачынцы па "гарачых слядах".

*Сяргей ВАСІЛЕВІЧ, начальнік аддзялення АУС на транспарце.*

КРЫМІНАЛЬНАЯ СТАТЫСТЫКА

## Без маку

СМАРГОНЬ. Узрасла колькасць дробных крадзяжоў у раёне; толькі за паўторныя крадзяжы да суровай адказнасці прыцягнута 15 чалавек, у той час як летась за паўгода – 4. Складзена больш за 240 пратаколаў за незаконнае вырошчванне маку. З 10 да 14 узрасла колькасць дарожна–транспартных здарэнняў. Складзена 219 пратаколаў за выраб і збыт самагонкі, узбуджана 19 крымінальных спраў, у 1998 годзе іх было толькі 9.

Узбуджана 5 крымінальных спраў супраць валютчыкаў; летась было ўсяго 2.

Усяго на Смаргоншчыне пакуль што зарэгістравана 238 злачынстваў, працэнт раскрывальнасці складае 84.

*Павел МАКЛЮК.*

ГАНДАЛЬ

## Школьны рынак на Цэнтральнай плошчы

МАЛАДЗЕЧНА. Сёння і заўтра з 10 гадзін Цэнтральная плошча ператворыцца ў школьны рынак.

Выедуць прадпрыемствы гандлю і грамадскага харчавання ўсіх формаў уласнасці. Таму, акрамя школьных рэчаў, можна будзе набыць кандытарскія вырабы, прадукты харчавання.

*Аддзел інфармацыі.*

## Тавары адусюль

СМАРГОНЬ. За 7 месяцаў гандлёвыя прадпрыемствы горада і раёна прадалі насельніцтву прадуктаў і прамысловых тавараў на суму звыш за 2 трыльёны рублёў. Рост да мінулага года ў супастаўных цэнах складае больш за чатыры працэнты. На долю дзяржаўнага сектара прыходзіцца 62%, 16% займае спажыўкааперацыя і 22 – магазіны і кіёскі недзяржаўнага гандлю.

Расце рэалізацыя нехарчовых тавараў, якія займаюць у тавараабароце 43%. Значна больш прададзена насельніцтву адзення, абутку, мэблі, будматэрыялаў, дываноў, тэлевізараў абодвух беларускіх заводаў, сантэхабсталявання.

Заключаныя дагаворы на пастаўку тавараў з 200 прадпрыемствамі Беларусі, якія яшчэ нядаўна з неахвотай працавалі з гандлем Смаргоншчыны.

Але толькі на 70% з Ашмянскім мясакамбінатам і на 10 са Смаргонскай птушкафабрыкай удалося ажыццявіць выбарку прадуктаў. Прычына адна – хранічны недахоп сыравіны на абодвух мерапрыемствах. Таму райвыканком арыентуе гандаль на закупку свініны па цэнах дамоўленасці ад насельніцтва і выпуск на ўласных вытворчых плошчах мясных паўфабрыкатаў.

*Павел МАКЛЮК.*

АЛКАГОЛЬНАЯ ТЭМА

## Самагонкі стане меней?

СМАРГОНЬ. Мясцовая міліцыя пачала масавы наступ на самагоншчыкаў, якія апошнімі гадамі наладзілі ў цяжкадаступных мясцінах ледзь не фабрыкі па вытворчасці "кустоўкі".

З дапамогай цяжкой тэхнікі, якую бяруць часам у меліяратараў, людзі ў пагонах вывозяць вялізныя ёмістасці і начынне самагоншчыкаў і ўтылізуюць яго.

Дарэчы, дзе–нідзе для мантажу самагонных апаратаў выкарыстоўвалася нават дэфіцытная нержавейка.

Такім чынам з пачатку аперацыі" зліквідавана ўжо больш за дзесятак "фабрык".

## Затое гарэлкі будзе болей

СМАРГОНЬ. Міністэрства прамысловасці абавязала кіраўніцтва завода аптычнага станкабудавання выпусціць да канца года яшчэ 45 чатырохпазіцыйных этыкеціровачных аўтаматаў, якія здольныя за адну аперацыю наклейваць на бутэлькі тры этыкеткі і акцызную марку.

Такіх машын на прадпрыемствах галіны Беларусі і Расіі працуе ўжо 15. Яны фактычна знаходзяцца ў СНД па–за канкурэнцыяй, бо расійскія вытворцы так і не здолелі давесці сваё дзецішча да серыйнай вытворчасці і вельмі разлічваюць цяпер на смаргонцаў. Праўда, давядзецца ўнесці некаторыя карэктывы ў блок машыны, які клеіць акцызную марку, бо беларуская крышку вузейшая за расійскую.

Такім чынам, для прадпрыемства наступаюць жаданыя часіны. Пачаты набор спецыялістаў і станочнікаў з мэтай арганізацыі двухзменнай работы па выпуску этыкеціровачных аўтаматаў. Да гэтай важнай справы падключаюцца некаторыя іншыя прадпрыемствы Беларусі, якія будуць пастаўляць на зборку ў Смаргонь шэраг вузлоў складанай у тэхнічным плане машыны.

*Павел МАКЛЮК.*

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка

ад Мікалая Хадасевіча
з п. Беразінскае Маладзечанскага р–на



**Па гарызанталях:** 1. Драпежная птушка з размахам крылаў каля трох метраў. 4. Савет на Украіне. 6. Рака на Далёкім Усходзе. 7. Будаўнічы матэрыял. 10. Жыллё людзей. 14. Буйны праваслаўны манастыр. 17. Тытул вышэйшых дыпламатычных прадстаўнікоў Ватыкана. 18. Заснавальнік кнігадрукавання ў рэспубліцы Малдова. 19. Хваёвае дрэва. 21. Дзяржава ў Паўднёва–Усходняй Азіі. 22. Каштоўны камень белага колеру. 23. Зменлівая папулярнасць. 24. Атмасферныя ападкі. 27. Рака ў Індыі. 30. Скарочаная назва пасады камандзіра брыгады. 31. Піянерскі лагер у Крыме. 32. Транспартны сродак для перавозкі пасажыраў. 34. Зямельная мера, якая прымяняецца ў шэрагу краін. 37. Старажытная манета краін Лацінскай Амерыкі. 38. Бацька роду чалавечага. 39. Рыба сямейства акунёвых. 40. Паўкаштоўны камень.

**Па вертыкалях**: 2. Нясучая частка машыны. 3. Тытул вышэйшага англійскага дваранства. 4. Элемент музычнага твора, які паказвае яго скорасць. 5. Сталіца краіны ў Азіі. 8. Навігацыйны арыенцір. 9. Атмасферныя ападкі. 11. Сталіца краіны ў Паўночнай Еўропе. 12. Высушаная трава. 13. Адрэзак шляху, які карабель ідзе зігзагам. 15. Возера ў Венгрыі. 16. Літаратурны жанр. 20. Лінія роўна размешчаных аднародных прадметаў. 21. Прылада для вызначэння пройдзенай адлегласці і скорасці карабля. 24. Узвышша. 25. Аднанасенны плод. 26. Дошка для вылічэння ў старажытнай Грэцыі. 28. Маленькая часцінка хімічнага элемента. 29. Птушка, якая можа плаваць па вадзе. 33. Салодкае рознакаляровае заліўное. 34. Супрацьрэвалюцыйная партыя ў Казахстане. 35. Ворыўная зброя. 36. Горад і порт у Японіі на востраве Акінава.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 33.*

**Па гарызанталях:** 1. Абмен. 4. Лабан. 6. Курвіметр. 9. Фанат. 11. Арган. 13. Судак. 16. Струг. 19. Тромб. 20. Астат. 21. Зіма. 22. Бром. 23. Дудка. 25. Банка. 27. Амбра. 28. Наказ. 30. Таксі. 33. Пляма. 34. Геліёграф. 35. Крэда. 36. Аліса.

**Па вертыкалях:** 2. Букет. 3. Навар. 4. Лямпа. 5. Абрыс. 7. Афорт. 8. Актэт. 10. Наморднік. 12. Гера. 14. Дыстанцыя. 15. Абзац. 16. Самка. 17. Гарна. 18. Мамба. 23. Дайна. 24. Абак. 26. Абрад. 29. Загар. 31. Асіна. 32. Сігма. 33. Пафас.

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# «Смерць нягодніка»

***Гэты выпадак узгадаўся ў сувязі з нядаўняй дэманстрацыяй па тэлебачанні фільма "Смерць нягодніка".***

А адбылося гэта ў 1983 годзе ў Смаргоні. У той год пайшло з жыцця некалькі членаў Палітбюро ЦК КПСС. Гэтыя сумныя падзеі адзначаліся ў СССР жалобай.

Планам работы кінатэатра "Космас" у Смаргоні на май 1983 года была прадугледжаная дэманстрацыя фільма "Смерць нягодніка". Але калі прыйшоў дзень дэманстрацыі фільма і адпаведная афіша ўпрыгожыла фасад кінатэатра, раніцой прагучала паведамленне аб смерці яшчэ аднаго партыйнага кіраўніка. Зноў афіша з назвай фільма адправілася ў склад. На экране пайшоў іншы фільм.

Толькі праз некалькі месяцаў смаргонскія гледачы змаглі паглядзець у кінатэатры французскі фільм "Смерць нягодніка" з Аленам Дэлонам у галоўнай ролі. У гэты раз ужо нічога не перашкодзіла.

*Мікіта ЛІСТАПАД.*

БЫЦЦЁ І ВЕЧНАСЦЬ






РАСПАЎСЮДЖАНЫЯ ЗАХВОРВАННІ І СПЕЦЫФІЧНЫЯ СПОСАБЫ ІХ ЛЯЧЭННЯ

# Артрыт

*Пачатак у № 31,33.*

Сняданак мусіць складацца з сырых спелых фруктаў (за выключэннем цытрусавых, сліў і рэвеню) ці сушаных абрыкосаў, сліў або груш і кубка ёгурту ці малака казы.

Пасля гэтага можна выпіць кавы з каранёў дзьмухаўца. Адвар маладой стручковай фасолі - карысны напой, і яго варта піць некалькі разоў на дзень паміж прыёмамі ежы. Калі маладой фасолі няма, яе можна замяніць гомеапатычнымі фасолевымі пілюлямі (Phaseolus).

Лячэнне варта пачынаць з 2–4–дзённага ўстрымання ад ежы. У гэты час можна піць толькі гародніныя сокі, яблычны сок, гарбату з крапівы ці каранёў лопуха і гатаваную ці крынічную ваду.

На працягу першых двух дзён старўнік варта ачышчаць з дапамогаю настойкі рэвеню – 1 мал. лыжка ў гарачай вадзе перад сном, а на наступную раніцу прыняць 1 мал. лыжку магнезіі ў шклянцы гарачай вады, запіць гарачым пітвом. Гэта павінна добра ачысціць кішэчнік. Пасля ачышчэння прыміце ванну, старанна папрацірайце скуру лазневай шчоткай (без мыла), затым панацірайцеся грубым ручнікам да пачырвanення і разагрэву скуры. Хворыя суставы прамасіруйце з падагрэтым рыцынавым алеем (ці ёдавым) і акуратна, але настойліва распрацуйце іх для захавання іх рухавасці. 2-3 разы на тыдзень варта прымаць памяркоўна гарачую 10–хвілінную ванну з дадаткам у ваду прыблізна 300 г магнезіі. Гэтая працэдура садзейнічае вывядзенню ядаў праз скуру. Не выкарыстоўвайце ніякага мыла.

Надзвычай важная фізічная актыўнасць на свежым паветры. Прагулкі дапамогуць арганізму ўтвараць свой уласны картызон, правентылююць лёгкія і насыцяць кіслародам усе тканкі арганізма. Аднак, калі рух немагчымы з–за моцных боляў, варта штодня праводзіць масаж канечнасцяў, спіны і жывата, распрацоўваць суставы. Можна таксама выконваць дыхальныя і іншыя практыкаванні, многія з якіх можна рабіць у пасцелі, калі хворы не ў стане падняцца. Рух і ўключэнне ў рацыён размочаных інжыру і чарнасліву, мёду, ёгурту, вотруб"я, аўсяных шматкоў і пшанічных зародкаў, і два разы на тыдзень дозы настойкі рэвеню перад сном будуць садзейнічаць рэгулярнаму ачышчэнню кішэчніка (настойка рэвеню з"яўляецца лёгкім слабіцельным, але яна танізуе мускулатуру кішэчніка і валодае антырэўматычнымі ўласцівасцямі). Шклянку гарачай мінеральнай вады Вішы варта выпіваць штораніцы для актывізацыі перыстальтыкі кішэчніка.

*Працяг будзе.*

# Беларускі хіт–парад

*(чэрвень–ліпень)*

| | | |
|---|---|---|
| 1. NRM | Пашпарт грамадзяніна НРМ | КОВЧЕГ |
| 2. Нейро Дюбель | Охотник и сайгак | Пан–рэк |
| 3. Народны альбом | (супольны музычны праект) | КОВЧЕГ |
| 4. Мясцовы Час | Халі–Галі | БМА |
| 5. Новае Неба | Мая краіна | КОВЧЕГ |
| 6. Уліс | Чужаніца | КОВЧЕГ |
| 7. Крама | Што дапаможа нам? | КОВЧЕГ |
| 8. ТРОІЦА | | TROITSA |
| 9. CD "ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ: СЛУХАЙ СВАЁ" | (зборнік 15 беларускіх гуртоў) | БМА |
| 10. ЗЬНІЧ | Язычнік – Я! | ЗЬНІЧ |

**Радыёварыянт беларускага хіт–параду можна пачуць кожны апошні чацвер месяца з 10.00 і кожную нядзелю з 13.30 на хвалях "РАДЫЁ–2" (Fm 70.4 Am 1197 kHz).**

Хіт–парад складзены Беларускай Музычнай Альтэрнатывай паводле продажу касет і CD. Набыць беларускую аўдыё-, відэа- і кніжную прадукцыю можна:

У Мінску ў кіёску Карона (каля крамы Музыка); Варвашэні 8; па т. (017) 2490888

у Маладзечне ў кіёску ТБМ (на чыгуначным вакзале); т. 53769 Алесь

– праз сістэму "Касеты – поштай".

*Зацікаўлены ў супрацоўніцтве па распаўсюджванні:*

*а/с 5, Мінск, 220085*

*тэл. 8(017) 2490888 Віталь*

**E-mail: aja@cscsc.lingvo.minsk.by**

ГАРАСКОП 23 – 29 ЖНІЎНЯ

**АВЕН (21.03–20.04)**
Ніякіх прынцыповых змяненняў ні ў асабістым жыцці, ні ў прафесійнай дзейнасці не адбудзецца.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Падыходзячы час для набыцця ведаў, назапашвання інфармацыі. Праявяцца кансерватызм і нежаданне нешта мяняць, хаця вытворчая сфера патрабуе некаторай рэарганізацыі.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Мужчыны будуць схільныя да прыняцця неразважлівых рашэнняў у асабістым жыцці – устрымайцеся ад прапановаў шлюбу сваім партнёршам, каб у бліжэйшыя дні не пашкадаваць пра гэта.

**РАК (22.06–23.07)**
Перыяд можна назваць нулявым. Абсалютная душэўная раўнавага падштурхне вас амаль у зімовую спячку. Аднак не праспіце адну вельмі прыемную падзею.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Вы на вяршыні падзей. Нечакана зваліцца не вельмі прыемная работа. Магчымая паездка, знаёмствы дзелавога і асабістага характару.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
З 24 жніўня Сонца перабазіруецца ў ваш знак, таму максімальна засяродзьце ўвагу на планаванні ўсяго будучага года – маеце шанцы на ўвасабленне планаў у жыцці.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Не звяртайце ўвагу на размовы за спінай. Добры перыяд для адпачынку, не зусім спрыяльны – для ўсталявання новых кантактаў.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Да канца жніўня вы будзеце настроеныя на дасягненне новых мэтаў і ўсталяванне абсалютнай справядлівасці. Скарыстайце сённяшнюю ўдачу, бо ў верасні сітуацыя зменіцца.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Усе прынятыя 20 і 21 рашэнні будуць не толькі правільныя, але і лёгка рэалізуюцца.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Будзеце адчуваць смутак і трывогу 22 і 23 жніўня, вам усё будзе падавацца марным і непатрэбным. Гэта – толькі стомленасць, не больш. Прыгледзьцеся да людзей з–пад вашага знака.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Жанчыны–Вадалеі будуць пачуваць сябе асабліва камфортна, бо да многіх з іх вернуцца ранейшыя прыхільнікі (пры наяўнасці новых) і гэта ўнясе інтрыгу ў адносіны, якая ім так цяпер неабходная.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Спакойны, калі не сказаць застойны перыяд. Прынамсі, вы не прыхільнік рэзкіх пераменаў і надта сумаваць не будзеце. На прафесійным фронце прарываў уперад не прадбачыцца.

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# Новы від бізнесу – галеча

Едзем у электрычцы, раптам:

– Грамадзяне, дапамажыце, калі ласка! – невялікі, азіяцкага выгляду чалавек з дзіцём на руках стаў пасярод вагона. – Мы прыехалі з Заходняй Украіны, наша дзіця вельмі хворае. Яму трэба рабіць аперацыю, каштуе яна вельмі дорага – 800 долараў. Толькі за мяжой яе могуць зрабіць.

Некаторыя з людзей адразу пачалі даставаць кашалькі і падаваць буйныя і дробныя грошы. Некаторыя, калі хлопец да іх падыходзіў, глядзелі на яго ці міма з каменнымі тварамі. Некаторыя адварочваліся.

Такая карціна звыклая ў метро. Вядома, кожны зарабляе чым можа. Адны прадаюць газеты, іншыя «б'юць на літасць». Некаторыя з тых, хто дае – відаць па твары – даюць грошы абы не стаяў над імі гэты чалавек з прасіцельна–патрабавальным поглядам. Папрашайкі моцна ўвайшлі ў наша жыццё. Ёсць і пасіўна–актыўныя, якія сядзяць каля магазінаў, пераходаў у метро.

Аднак не ўсе яны такія бедныя. Назіраў такую карціну – сядзіць жабрак, просіць міласціну і... памірае. Ад перапою. Трэба апахмяліцца. На бутэльку. Вось і зарабляе.

Іншы выпадак. Сядзіць бабуля каля магазіна. Маладая жанчына злітавалася над ёю – падала некалькі дзвюхсотак. Пайшла. А бабуля пераканалася, што ніхто яе не бачыць, і адкінула грошы ў бок. Мала.

Знаёмыя расказвалі, што некаторых жабракоў развозяць на «работу» на «мерседэсах». Так што, перш чым даваць грошы, спытайцеся ў сябе, ці не даяце вы іх жабракам, з дапамогай якіх узводзяць катэджы пад Мінскам? І што гэта: даніна з вашай дабрыні ці глупства?

*Мікалай ВАСІЛЕЎСКІ.*

 



*Вышэйшая ліга*

# Першы матч

## без прапушчаных мячоў як стартавая пляцоўка да светлага будучага?

**Нёман-Белкард (Гродна) - Маладзечна 0:0**

14.08, 1500 гледачоў, галоўны арбітр Валерый Вялічка (Мінск)

6 Макрыцкі
11 Паўлавец (Дзербан, 46)
10 Мархель
9 Ваўчок
5 Лабецкі (Вольскі, 76)
8 Дараховіч
7 Федаровіч
3 Молаш
2 Рагуновіч
4 С. Кабельскі (кап.)
1 Васілеўскі

**Запасныя:** Кацкель, Рыжэўскі, Парываеў, Зрыбненка.

**Папярэджанне:** Ваўчок.

**Лепшыя:** Молаш, С. Кабельскі, Дараховіч.

**Удакладненні:** у мінулым матчы **Вайтовіч** не быў капітанам, а **Яўсеенка** выйшаў на замену на 82 хвіліне.

Пасля даволі роўнага матча з "Шахцёрам" маладзечнацы адчулі некаторую ўпэўненасць у сваіх сілах. Цяпер галоўная задача – набіраць ачкі. Гуляць трэба, у першую чаргу, на вынік.

Сустрэча ў Гродне атрымалася не вельмі відовішчнай. Гаспадары дзейнічалі даволі бяззуба ў атацы, а госці згулялі так, каб застацца задаволенымі вынікам. Трэнер **Уладзімір Галубко** гаворыць, што каманда выглядала дастойна, а гасцявая сухая нічыя пасля антырэкорднай серыі з дзесяці паражэнняў запар добра дзейнічае ў псіхалагічным плане.

Гульнявая перавага засталася за гродзенцамі. Былі больш актыўнымі, зрабілі некалькі небяспечных прастрэлаў, а аднойчы "Маладзечна" выратаваў **Аляксандр Васілеўскі**, які парыраваў на лініі варот удар ва ўпор, які наносіў свой жа футбаліст (**Сяргей Федаровіч**), калі імкнуўся адбіць мяч на вуглавы. А ў адным з эпізодаў галкіпер крыху памыліўся і гэтым вымусіў пахваляваціца партнёраў. У нас добрыя моманты мелі той жа Федаровіч – біў галавою пасля падачы вуглавога, **Сяргей Дараховіч** – быў на добрай пазіцыі, але стаў перакладваць мяч з нагі на нагу і страціў час, а таксама **Міхаіл Мархель**.

Гэты матч быў судзейскім дэбютам у вышэйшай лізе для вядомага ў былым футбаліста мінскага "Дынама" **Валерыя Вялічкі**. Прэтэнзій да яго рашэнняў не было. Можна адзначыць, што дзейнічаў у англійскай манеры, даючы жорстка пазмагацца за мяч.

Неспакойна было нашым трэнерам за гульню крайніх паўабаронцаў. Што зробіш, яны прыйшлі з ніжэйшых ліг, пакуль не асвоіліся на больш высокім узроўні. Як заўсёды, надзейна адгулялі **Сяргей Кабельскі** і Міхаіл Мархель, Дараховіч ізноў быў вельмі мабільным, упэўнена дзейнічаў у абароне малады **Дзмітрый Молаш**.

| ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА | |
|---|---|
| **КАМАНДА** | **АЧКІ** |
| 1. БАТЭ | 50 |
| 2. «Днепр-Трансмаш» | 44 |
| 3. ФК «Гомель» (–1) | 42 |
| 4. «Славія» (–1) | 38 |
| 5. «Шахцёр» | 35 |
| 6. «Дынама» (Бр) | 32 |
| 7. «Белшына» | 29 |
| 8. «Дынама» (Мн) | 29 |
| 9. «Лакаматыў–96» | 27 |
| 10. «Нёман–Белкард» | 27 |
| 11. «Тарпеда»–МАЗ | 21 |
| 12. ФК «Ліда» | 14 |
| 13. «Нафтан-Дэвон» | 13 |
| 14. «Тарпеда–Кадзіна» | 12 |
| 15. «Свіслач–Дах» | 11 |
| 16. ФК «МАЛАДЗЕЧНА» | 6 |

Дынама (Мн) – Лакаматыў-96 4:0, Шахцёр – Нафтан-Дэвон 5:2, Днепр-Трансмаш – Тарпеда-МАЗ 1:0, Белшына – Ліда 4:1, БАТЭ – Свіслач-Дах 2:0, Дынама (Бр) – Тарпеда-Кадзіна 4:0.

**Бамбардзіры**: Алешчанка ("Лакаматыў-96") – 15, Васілюк (брэсцкае "Дынама") – 13, Стрыпейкіс ("Славія") – 12.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Другая ліга*

# Кубак, дыван і «мёртвыя душы»

**Смаргонь – Днепр–2 4:0**

**Галы:** Якубіцкі, 29; Відук, 55, 71; Мазанік, 74.

**Склад:** Ан. Канапелька, Васілеўскі, Недавес, Макей (Карабінскі, 78), Юркевіч (кап.), Красоўскі (Ал. Канапелька, 67), Дукса (Цярэшчанка, 59), Якубіцкі, Курак (Новік, 78), Варатнікоў (Мазанік, 72), Відук.

Гаспадары жадалі рэабілітавацца перад балельшчыкамі за недарэчнае паражэнне ў мінулым туры і абрынулі на магілёўчан шквал сваіх "фірменных" атак. На 5–й хвіліне быў прызначаны пенальці, які ўпэўнена не рэалізаваў (не першы раз у сезоне) Недавес. Госці адбіваліся, як маглі, моманты былі ў Красоўскага (двойчы), Відука, Якубіцкага. І вось апошні ўзламаў абарону нямоцным ударам у правы ад варатара кут варот.

Увесь матч няспынна ішлі атакі смаргонцаў. Не скарысталі цудоўныя моманты Курак, Красоўскі, Цярэшчанка, Якубіцкі (цэлых 5; ён быў лепшы ў складзе "Смаргоні", і яму ўручылі прыз – дыван).

Гаспадары не забываліся і забіваць. Самым прыгожым стаў другі гол Відука. Ён атрымаў мяч каля самай бакавой штангі варот гасцей. Вугал быў востры, Віталь сабраў вакол сябе трох абаронцаў і варатара, "правёў" іх да сярэдзіны штрафной і ў падзенні забіў гол. Трыбуны ўзарваліся.

У гасцей на матч было заяўлена 18 гульцоў, але я, як ні стараўся, акрамя 11 гульцоў асноўнага складу, нікога з "Дняпра–2" больш не заўважыў.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

# Амаль як з Бэкхемам

**Забудова – Бярэзіна (Бабруйск) 1:0 (0:0)**

**Гол:** Рыгаровіч (85-пен.).

**Склад:** Мароз, Чарнель, Ліс, Саковіч (Гулевіч, 79), Лазучонак, Відрук (Садчанка, 46; Янель, 72; В. Ваўчок, 89), Татун, Касцюкевіч (кап.), Рыгаровіч, Д. Мятліцкі, М. Мятліцкі (Півавар, 55).

Да вядомай страты трох футбалістаў, што перайшлі ў "Маладзечна", у гэтай сустрэчы чысцінцы па розных прычынах не далічыліся яшчэ чатырох гульцоў асноўнага складу. У першым тайме крыху вастрыні прынеслі два флангавыя прастрэлы гаспадароў, злева **Дзяніса Мятліцкага** і справа **Сяргея Рыгаровіча**. Вызначальнай для характару матча стала падзея на 38 хвіліне, калі быў выдалены адзін з гасцей за хуліганскі ўдар саперніка нагой пасля спынення гульні – эпізод, падобны на сітуацыю з **Дэвідам Бэкхемам** на леташнім чэмпіянаце свету.

Бабруйчане акапаліся ў абароне. Невялікае па шырыні поле чысцінскага стадыёна не дазваляла як след расцягнуць іх парадзелыя шэрагі, а частыя падключэнні ў атаку абаронцаў у асноўным толькі павялічвалі колькасць людзей ля штрафной "Бярэзіны". Небяспечна білі Рыгаровіч (метраў з 18 вышэй варот), **Мікалай Татун** (галавою міма), малодшы Мятліцкі (з 20 метраў у перакладзіну).

Дзякуючы заменам, ціск на вароты гасцей узрос, і, у рэшце рэшт, Рыгаровіч абыграў абаронцу ў штрафной ды быў збіты з ног. Ён жа ўзяў на сябе адказнасць самага галоўнага ўдару ў матчы, які ўпэўнена выканаў у правы кут побач са штангай. Гаспадарам не хапіла досведу спакойна дагуляць матч. Сапернікі выконвалі тры запар стандартныя становішчы, да якіх падключаўся іх галкіпер, і адзін раз здолеў прабіць галавою. "Забудове" пашанцавала, што мяч трапіў у перакладзіну.

17-гадовы **Аляксандр Мароз** упэўнена кіраваў абаронцамі, аднак у сапраўднай справе яго пабачыць не ўдалося. Здаецца, трывала ўвайшлі ў асноўны склад Татун і Д. Мятліцкі, якія парадавалі сваёй мабільнасцю. Апошні нагадвае **Віталя Макрыцкага**, бо таксама часта сустракаецца з мячом ля чужых варот і не заўсёды правільна вырашае, што з ім рабіць.

АФВіС-РШВСМ – Свіслач-Дах-2 2:1, Лакаматыў – Азяркі 1:0, РВАР – Верас 1:1, Змена-БАТЭ – Трактар 2:3.

| | |
|---|---|
| 1. Трактар (-1) | 36 |
| 2. Азяркі | 34 |
| 3. Лакаматыў | 31 |
| 4. **Забудова** | **31** |
| 5. Змена-БАТЭ | 30 |
| 6. РВАР | 29 |
| 7. **Смаргонь (-1)** | **27** |
| 8. Верас (-1) | 21 |
| 9. Будаўнік (-1) | 15 |
| 10. АФВіС-РШВСМ | 13 |
| 11. Днепр-2 | 8 |
| 12. Бярэзіна | 7 |
| 13. Свіслач-Дах-2 | 5 |

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

**АНОНС**

**21.08 Маладзечна – Днепр-Трансмаш (Магілёў)**

Пачатак 18.00. +4=4-7 18-28. Сёлета 1:1 (**Шампорык**) на выездзе. Пасля чырвоных картак **Сяргей Вайтовіч** ужо зможа гуляць, а вось **Дзмітрыю Кабельскаму**, відаць, прыйдзецца яшчэ "адпачыць".

**22.08 Азяркі (Глыбокае) – Забудова**

Сёлета 0:0 дома.

**22.08 Свіслач-Дах-2 (Асіповічы) – Смаргонь**

Сёлета 0:0 дома.

*Нашы інтэрв'ю*

# Перамены да лепшага?

*За апошнія два каляндарныя гады ў ФК "Маладзечна" ўжо сёмы галоўны трэнер. Калі ласка, знаёмцеся: Уладзімір КАСАКОЎСКІ.*

**– Шмат год у чэмпіянатах краіны вы ўзначальвалі сталічнае "Тарпеда", летась там дапамагалі Анатолю Юрэвічу, а ў гэтым сезоне пакуль нідзе не працавалі. Чым займаліся раней? Калі і дзе нарадзіліся?**

– Я – мінчанін, 1955 года нараджэння, выхаванец дынамаўскай школы. У чэмпіянатах БССР выступаў за "Спадарожнік", неаднаразовага пераможцу і прызёра. Крыху пагуляў у другой саюзнай лізе за каманду з Узбекістана. Потым быў на трэнерскай рабоце ў "Спадарожніку" і з 1989 года ў "Тарпеда".

**– Свой адыход адтуль вы тлумачылі жаданнем самастойнай работы. Якім чынам атрымалі запрашэнне з "Маладзечна"?**

– Прапанова паступіла ўжо не першы раз, аднак раней я адмаўляўся, бо не адчувалася сапраўднай падтрымкі каманды ад гарадскіх уладаў. Цяпер іншая абстаноўка. Лічу, ёсць магчымасць для сур'ёзнай работы.

**– Што будзеце рабіць, каб сёлета каманда выратавалася? Ці бачыце для сябе доўгатэрміновую перспектыву?**

– У першую чаргу стаіць пытанне аб стварэнні моцнай каманды ў будучым. Аднак, зразумела, у мяне ёсць самалюбства. Трэба пастарацца сёлета зрабіць усё магчымае.

**– Што канкрэтна? На жаль, новых гульцоў ужо нельга дазаявіць.**

– Так, трэба працаваць з тымі, хто ёсць. Павышаць іх індывідуальнае майстэрства. Дадаць у тактычным плане, камандных узаемадзеяннях. І, галоўнае, псіхалагічна разняволіць. Хаця апошнія вынікі не самыя дрэнныя, аднак да належнага ўзроўня гульні яшчэ далёка. Па вялікім рахунку, цяпер усё залежыць ад саміх футбалістаў.

**– А балельшчыкам застаецца толькі хваляваецца і спадзявацца. Удачы вам!**

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Таварыскі матч*

# Не па–суседску

**Беларусь – Расія – 0:2**

Атмасфера вакол матча была звычайная, складвалася ўражанне, што на «Дынама» пройдзе чарговая сустрэча чэмпіянату краіны. Нашы балельшчыкі паводзілі сябе міралюбіва, а расійскія па–розным: некаторыя ахвотна пазіравалі перад фотаапаратам, а фанаты «Спартака» адразу ж выказвалі сваю агрэсіўнасць.

Расійскія футбалісты прыехалі на стадыён амаль за паўтары гадзіны да пачатку гульні; услед за імі пад"ехалі і нашы. Праз пяць хвілін абедзве каманды выйшлі на поле: расіяне – у касцюмах з гальштукамі, беларусы – у спартыўным адзенні. Дзмітрый Аленічаў, Ігар Чугайнаў і Сяргей Гурэнка доўга пра нешта гутарылі.

*На трыбунах*

Найбольшыя авацыі выклікалі пры прадстаўленні Сяргей Гурэнка і Андрэй Ціханаў. Хаця наогул балельшчыкі былі «ніякія». Характэрны эпізод недзе на 60–й хвіліне: у сектары з расійскімі балельшчыкамі ўзнікла бойка, дзе міліцыя, у адрозненне ад беларускіх «фанаў», не саступіла.

На трыбунах былі дзяржаўныя сцягі Беларусі і Расіі, бела–чырвона–белы, прысутнічаў і Аляксандр **Лукашэнка**.

*Пасля матча*

**Алег Раманцаў:** Вынікам задаволены, хаця забіць мы маглі значна больш.

**Міхаіл Вяргеенка:** Сустрэча цікавая. Калі ў Туле расіяне нас крыху недаацанілі, то сёння паставіліся з павагай. Добра ўзаемадзейнічалі Чайка і Кульчый. Качура належным чынам не падрыхтаваны фізічна: перад матчам мы ставілі яму задачу паказаць усё, на што здольны.

**Андрэй Ціханаў:** Лік па гульні. У вас спадабаліся Вася Баранаў, Максім Рамашчанка, Сяргей Гурэнка. Ваша каманда – без слабых месцаў, проста мы былі мацнейшыя ў патрэбныя моманты.

**Генадзь Туміловіч:** Расіяне – класныя выканаўцы. «Спартак» гуляе ў адзін футбол, зборная – у іншы.

**Аляксандр Кульчый:** Мог забіць на першых хвілінах, калі біў дакладна ў «дзірку» у абароне. Адчувалася адсутнасць Бялькевіча і Хацкевіча. Добра выглядалі Рамашчанка і Баранаў, у сапернікаў спадабаліся Цітоў і Хлястоў.

**Максім Рамашчанка:** У нас з Баранавым атрымалася добрая звязка, момантаў хапала. Усе нашы футбалісты «выкладаліся» да канца. Міраславу нядаўна зрабілі яшчэ адну аперацыю, ён не трэніруецца, ходзіць засмучаны. Словам, чорная паласа.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

**Рэдакцыя «РГ» удзячная федэрацыі футбола краіны за акрэдытацыю на матчы журналістаў нашай газеты.**

*"Таталізатар"*

# 11 раунд

| № | Матчы (31 жніўня) | Лік-прагноз |
|---|---|---|
| 1. | Лакаматыў–96 – Белшына | |
| 2. | Дынама (Бр) – Славія | |
| 3. | Маладзечна – Тарпеда-МАЗ | |

Прозвішча ______________ Адрас ______________
Імя ______________ Тэлефон ______________

Вынікі 10–га раунда – у наступным нумары. Цяпер – купон адзінаццатага раунда, які праз тыдзень будзе паўтораны разам з анонсамі.

Апошні дзень адпраўкі купонаў – панядзелак, 30 жніўня.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Футболпрагноз*

# Наперадзе – плэй–оф

Гульні ў групах завяршыліся. Наперадзе – плэй-оф Завяршыўся амаль двухмесячны марафон першага этапа. З 36 каманд засталіся толькі 16, і для іх усё толькі яшчэ пачынаецца. Наперадзе самае цікавае – плэй-оф.

**4 тур** 1 х х 1 2 2 2 2 х 2;
**5 тур** х 2 – 1 1 х 1 2 1 1.

***Выніковыя табліцы першага этапа:***

**Група 1**

| | П | Н | П | Р/М | З | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. "Метэор" | 3 | 2 | 0 | 9:2 | 29 | 11 |
| 2. "Нотынгем" | 3 | 0 | 2 | 11:4 | 31 | 9 |
| 3. "Піянер" | 2 | 1 | 2 | 6:7 | 25 | 7 |
| 4. ФК "Локомо" | 2 | 1 | 2 | 5:6 | 28 | 7 |
| 5. "Бонус" | 1 | 1 | 3 | 8:16 | 19 | 4 |
| 6. "Парма" | 0 | 3 | 2 | 4:8 | 27 | 3 |

**Група 2**

| | П | Н | П | Р/М | З | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. САШМ | 3 | 1 | 1 | 6:3 | 30 | 10 |
| 2. ФК "Казіно" | 3 | 0 | 2 | 8:5 | 27 | 9 |
| 3. "Саўтгемптан" | 2 | 2 | 1 | 6:3 | 33 | 8 |
| 4. "Металург" | 2 | 2 | 1 | 5:5 | 30 | 8 |
| 5. "Лестэр" | 1 | 1 | 3 | 6:9 | 26 | 4 |
| 6. "Пячнік" | 0 | 2 | 3 | 4:10 | 27 | 2 |

**Група 3**

| | П | Н | П | Р/М | З | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. "Тотэнхэм" | 4 | 1 | 0 | 7:1 | 32 | 13 |
| 2. "Руж. мара" | 3 | 1 | 1 | 4:5 | 28 | 10 |
| 3. ФПК "Кобра" | 2 | 1 | 2 | 6:4 | 28 | 7 |
| 4. "Бык" | 1 | 3 | 1 | 4:8 | 24 | 6 |
| 5. "Будаўнік" | 1 | 2 | 2 | 3:6 | 27 | 5 |
| 6. "Маладзечна" | 0 | 0 | 5 | 0:0 | 0 | 0 |

**Група 4**

| | П | Н | П | Р/М | З | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. "Металург-2" | 5 | 0 | 0 | 12:4 | 30 | 15 |
| 2. "Авось" | 3 | 1 | 1 | 6:3 | 26 | 10 |
| 3. ФПК "Рысь" | 2 | 1 | 2 | 8:7 | 26 | 7 |
| 4. "Вав. у гаі" | 0 | 4 | 1 | 7:11 | 23 | 4 |
| 5. ФК "1978" | 0 | 2 | 3 | 4:7 | 26 | 2 |
| 6. "Дыяна" | 0 | 2 | 3 | 4:9 | 24 | 2 |

**Група 5**

| | П | Н | П | Р/М | З | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. МЮ-2 | 3 | 1 | 1 | 12:2 | 27 | 10 |
| 2. "Норд-Ост" | 2 | 2 | 1 | 8:6 | 29 | 8 |
| 3. "Фіярэнціна" | 2 | 1 | 2 | 5:6 | 27 | 7 |
| 4. "Барбароса" | 1 | 3 | 1 | 6:7 | 29 | 6 |
| 5. ТПС | 1 | 2 | 2 | 5:9 | 27 | 5 |
| 6. "Калібр" | 1 | 1 | 3 | 7:13 | 25 | 4 |

**Група 6**

| | П | Н | П | Р/М | З | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. "Мідлсбро" | 4 | 1 | 0 | 9:3 | 32 | 13 |
| 2. "Гётэборг" | 2 | 3 | 0 | 3:2 | 29 | 9 |
| 3. "Метрашток" | 2 | 2 | 1 | 4:4 | 29 | 8 |
| 4. "Чэмпіён" | 1 | 3 | 1 | 3:6 | 28 | 6 |
| 5. "Жартаўнікі" | 1 | 1 | 3 | 1:5 | 30 | 4 |
| 6. "Тарпеда" | 0 | 0 | 5 | 0:0 | 0 | 0 |

Найбольш на першым этапе праявілі сябе **А. Полаз**, у у якога ў плэй-оф прайшлі ўсе 4 каманды; **П. Касцянкоў і С. Ярук** "правялі" па 2 з дзвюх: прычым апошні "выцягнуў" свае каманды літаральна "за вушы" у самы апошні момант. Яшчэ трэба адзначыць 100-працэнтны вынік каманды "Металург-2" **М. Хадасевіча**; таксама выйшлі далей 12-гадовы **А. Мельнічэнка** (САШМ) і адзіная прыгажуня **І. Івашынка** ("Ружовая мара").

Далейшая формула турніру: прайграў – вылятай.

**Жараб"ёўка каманд на стадыі 1/8 фіналу:**

1. "Металург-2" – "Гётэборг"
2. "Тотэнхэм" – "Метрашток"
3. "Норд-Ост" – ФК "Казіно"
4. САШМ – "Ружовая мара"
5. "Метэор" – "Мідлсбро"
6. ФПК "Кобра" – "Саўтгемптан"
7. МЮ-2 – "Авось"
8. ФПК "Рысь" – "Нотынгем"

**У 1/4 фінала сустрэнуцца:**

А. Пераможца 1 – Пераможца 8
Б. Пераможца 4 – Пераможца 5
Г. Пераможца 2 – Пераможца 7
Д. Пераможца 3 – Пераможца 6

**У паўфіналах будуць гуляць:**

1. Пераможца А – Пераможца Д
2. Пераможца Б – Пераможца В

***Праграма на 1/8 фіналу (25.08–31.08)***

1. Тарпеда–МАЗ – Лакаматыў–96
2. Шахцёр – Гомель
3. Тарпеда – Зеніт
4. Ротар – ЦСКА
5. Жамчужына – Аланія
6. Сатурн – Уралан
7. Ліён – ПСЖ
8. Страсбур – Рэн
9. Штутгарт – Байер (Л)
10. Айнтрахт – Дуйсбург
11. Тотэнхэм – Лідс
12. Ліверпуль – Арсенал
13. Сандэрленд – Ковентры

**Праграма на 1/4 фіналу (02.09–14.09)**

1. Беларусь – Уэльс
2. Украіна – Францыя
3. Славакія – Румынія
4. Данія – Швейцарыя
5. Швейцарыя – Беларусь
6. Італія – Данія
7. Грузія – Латвія
8. Польшча – Англія
9. Румынія – Партугалія
10. Нарвегія – Славенія
11. Маладзечна – Лакаматыў–96
12. Днепр–Трансмаш – Гомель
13. Славія – Белшына

**Не забывайцеся на пасляматчавыя пенальці!** Стаўце 5 літар "П" насупраць 5 сваіх прагнозаў. Падрабязнасці пра дадатковы час і пасляматчавыя пенальці глядзіце ў №15, 16 "РГ".

Апошні тэрмін прыёму прагнозаў – 24.08.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

# Дэкрэт №29: Даеш кантрактызацыю ўсёй краіны!

*ЗАКАНЧЭННЕ. ПАЧАТАК У ПАПЯРЭДНІМ НУМАРЫ*

## Дэкрэт і наймальнікі

З аднаго боку, наймальнікам цяпер будзе раздолле для рэалізацыі сваіх планаў. Работнікі, пераведзеныя на кантракт, прыціхнуць, а актыўнасць прафсаюзаў наогул спадзе. Арганізаваць забастоўку будзе вельмі няпроста, паколькі ў любога забастоўшчыка таксама ёсць кантракт, які калі–небудзь заканчваецца.

З другога боку, у дэкрэце прадугледжваецца дастаткова сродкаў, каб трымаць наймальніка ў цуглях. Для гэтага ёсць некалькі спосабаў. Першы – кантракт з кіраўніком, які можна спыніць у сувязі з заканчэннем тэрміну, а таксама датэрмінова за разнастайныя парушэнні, якія ёсць у вялікай колькасці ў любой арганізацыі. Другі спосаб – штраф да 100 мінімальных заработных плат за незаконнае прыцягненне работніка да адказнасці (п. 3 дэкрэта). Праўда, гэтую пагрозу наймальнікі могуць ад сябе адвесці, напрыклад, работніка за парушэнне працоўнай дысцыпліны прыцягваць да адказнасці не будуць, а звольняць у сувязі з заканчэннем тэрміну кантракта. Аднак тут можа спрацаваць іншая форма норма дэкрэта (п. 2.10), якая прадугледжвае адказнасць за ўтойванне фактаў парушэнняў працоўнай і выканальніцкай дысцыпліны. Трэці спосаб – вызваленне ад займаемай пасады, калі запазычанасць па выплаце заработнай платы складае тры і больш месяцаў (п. 8 дэкрэта).

## Дэкрэт і прафсаюзы

У дэкрэце аб прафсаюзах упамінаецца толькі адзін раз (у пункце 10), дзе праваахоўным органам і судам даручана «с участием Федерации профсоюзов Белорусской» здзейсніць комплекс мерапрыемстваў па павышэнні прававой культуры насельніцтва. Адсюль зразумелая ацэнка ролі прафсаюзаў «в совершенствовании трудовых отношений, укреплении трудовой и исполнительской дисциплины». Напэўна, улада мяркуе, што без прафсаюзаў цалкам можна абысціся, як і без слоў аб сацыяльным партнёрстве.

Варта таксама мець на ўвазе, што прафсаюзныя дзеячы, у асноўным, зяўляюцца нявызваленымі работнікамі, а таму да іх у поўнай меры прымяняюцца палажэнні дэкрэта. Акрамя таго, пры дапамозе кантракта на самых гарластых абаронцаў правоў работнікаў можна заўсёды знайсці ўправу: пры заканчэнні яго тэрміну ніякія антыпрафсаюзныя гарантыі не дзейнічаюць. А за варотамі завода прафсаюзны актывіст небяспекі не ўяўляе. Работнікі ж, што засталіся, задумаюцца – ці варта ім змагацца за свае правы?

**Дэкрэт і ўлада.** Больш за ўсё ад дэкрэта, на наш погляд, атрымае цяперашняя ўлада. Пералік «пераваг» ад дэкрэта можа быць доўгі. Назавем толькі некаторыя з іх:

1) вымушанае ўсеагульнае паслушэнства работнікаў перад наймальнікамі, а наймальнікаў перад дзяржавай;

2) эканомія бюджэтных сродкаў за кошт памяншэння расходаў на выплаты выхадной дапамогі звальняемым работнікам;

3) фактычнае ўстараненне забастовак і яшчэ большае зніжэнне актыўнасці прафсаюзаў;

4) правядзенне праз працоўных і іх кіраўнікоў любых палітычных рашэнняў.

Пры дапамозе дадзенага дэкрэта ўлада фактычна ўстанаўлівае свайго роду прыгонную залежнасць чалавека працы ад дзяржавы, а дакладней, ад тых, хто ёю кіруе. Следам за адзяржаўленнем эканомікі адбудзецца адзяржаўленне працоўнай сілы. Праца са справы «чести, доблести и геройства» ператвараецца ў паднявольнае выкананне абавязкаў перад дзяржавай. Такім чынам, дзяржаўны інтарэс зноў зойме пануючае становішча, адсунуўшы ўбок грамадскі інтарэс і самае святое – правы чалавека.

## Ці законны сам дэкрэт?

Па сутнасці, дэкрэт азначае з'яўленне «прэзідэнцкага» працоўнага права, якое ў зыходных пазіцыях расходзіцца з Канстытуцыяй і дзеючым Кодэксам законаў аб працы, а таксама міжнародным працоўным правам.

Канстытуцыя (арт. 41) гарантуе грамадзянам Рэспублікі Беларусь права на працу як найбольш дастойны спосаб самазацвярджэння чалавека. Але пра якое самазацвярджэнне работніка можна гаварыць, калі дэкрэт тымі ж кантрактамі абмяжоўвае яго свабоду, звязваючы яго па руках і нагах. Больш за тое, нічым не абмежаваная магчымасць наймальніка звальняць работніка па заканчэнні тэрміну кантракта ёсць не што іншае, як пазбаўленне яго галоўнага права – права на працу.

Дэкрэт прыводзіць да абмежавання і іншых канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян: на свабоду аб'яднання (арт. 36), забастоўку (арт. 41) і судовую абарону (арт. 61). Як, скажыце, можна свабодна аб'ядноўвацца ў прафсаюзы, калі з–за членства ў непажаданым для наймальніка прафсаюзе з работнікам могуць не перазаключыць кантракт? Тое ж самае пытанне тычыцца і рэалізацыі права на забастоўку. А ў суды не будзе сэнсу звяртацца, таму што пры звальненні наймальніку дастаткова даказаць, што кантракт скончыўся. Трэба меркаваць, што іншыя прычыны суддзя проста не будзе высвятляць.

Шмат разыходжанняў мае дэкрэт з дзеючым Кодэксам законаў аб працы. Апошні, у прыватнасці, дапускае магчымасць заключэння кантрактаў «только с отдельными категориями работников и лишь при определённых условиях» (арт. 256). Дэкрэт жа дае магчымасць заключаць кантракты з усімі работнікамі.

У новым Працоўным кодэксе, які павінен уступіць у сілу з 1 студзеня 2000 г., пра кантракты наогул не ўпамінаецца. У артыкуле 35 гэтага дакумента запісана, што працоўны дагавор спыняецца толькі па падставах, указаных у Кодэксе. Дэкрэт жа прадугледжвае дзесятак прычын звальнення, якія падлягаюць абавязковаму ўключэнню ў кантракт. Акрамя таго, дэкрэт пагаршае становішча работнікаў ў параўнанні з Кодэксам і па іншых пазіцыях. У прыватнасці, артыкул 73 патрабуе, каб зарплату выдавалі не радзей за два разы на месяц, а дэкрэт – не радзей за адзін раз.

Звяртаюць на сябе ўвагу тыя абставіны, што дэкрэт не сугучны з расійскім працоўным заканадаўствам, дзе тэрміновыя працоўныя дагаворы маюць строга абмежаваную сферу прымянення. І гэта нягледзячы на неаднаразовыя заявы вышэйшых службовых асоб і падпісаныя дагаворы аб неабходнасці ўніфікацыі і гарманізацыі заканадаўства Беларусі і Расіі.

Дэкрэт не адпавядае таксама міжнародным працоўным стандартам. Так, Канвенцыі №158 Міжнароднай арганізацыі працы «О прекращении трудовых отношений по инициативе предпринимателя» патрабуе ўстанаўлення гарантый супраць выкарыстання дагавораў аб найманні на пэўны тэрмін (іх разнавіднасцю з'яўляюцца кантракты. – **Аўт**.), а таксама спынення працоўных адносінаў з работнікамі толькі пры наяўнасці законных падстаў, звязаных са здольнасцямі або паводзінамі працоўных ці вытворчай неабходнасцю прадпрыемства, установы або службы. У адступленне ад гэтых патрабаванняў дэкрэт замест абмежаванняў кантрактаў максімальна пашырыў дыяпазон іх прымянення, а пры іх спыненні не патрабуе якога–небудзь абгрунтавання.

На жаль, у нашай рэспубліцы стала звычайнай справай, калі ў жыццё праводзіцца не закон, а дэкрэты і ўказы, якія яму супярэчаць. Гэтаму ёсць аналагі ў айчыннай гісторыі. Першы Кодэкс законаў аб працы 1922 года (для БССР – у рэдакцыі 1929 г.) дзейнічаў амаль 40 год. Аднак гэта не перашкаджала праводзіць у жыццё пастановы і ўказы, якія яму супярэчылі. Яшчэ адна асаблівасць – што Кодэкс законаў аб працы БССР да 1956 года заставаўся дакументам для «службовага карыстання».

## Што рабіць?

Трэба быць рэалістамі. Дэкрэт ужо дзейнічае і, трэба меркаваць, будзе паспяхова «канкурыраваць» з законам – Працоўным кодэксам, падпісаным (якая сумная іронія!) у адзін дзень з дэкрэтам. Што можна параіць работнікам і іх прадстаўнікам у такой сітуацы?

**Першае**: выказаць свае прынцыповае стаўленне да дэкрэта і праінфармаваць пра гэта вышэйшыя органы ўлады. У першую чаргу, гэта тычыцца лідэраў прафсаюзаў і калектываў буйных прадпрыемстваў, паколькі да пазітыўнага выніку могуць прывесці толькі масавыя калектыўныя дзеянні. У гэтай сувязі мы падтрымліваем Заяву Каардынацыйнага савета Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў ад 29 ліпеня 1999 г. (гл. газета «Народная воля», 03.08.99 г.).

**Другое**: ініцыіраваць працэс праверкі канстытуцыйнасці дадзенага дэкрэта шляхам унясення Урадам або іншым упаўнаважаным суб'ектам у Канстытуцыйны суд. Паставіць гэтае пытанне перад кампетэнтнымі дзяржаўнымі органамі могуць рэспубліканскія грамадскія аб'яднанні, у тым ліку, прафсаюзы.

**Трэцяе**: мае сэнс звярнуцца ў Міжнародную арганізацыю працы, членам якой з'яўляецца Рэспубліка Беларусь, з тым, каб яна дала сваю ацэнку дэкрэту і, пры неабходнасці, прадпрыняла адпаведныя дзеянні.

**Чацвертае**: дабівацца пры заключэнні кантрактаў максімальнага ўліку ў іх інтарэсаў работнікаў і павелічэння тэрміну кантракта. Для гэтага трэба, ў першую чаргу, выкарыстоўваць магчымасці калектыўных дагавораў і пагадненняў. Напрыклад, прадугледжваючы ў іх мінімальны тэрмін у тры гады з павелічэннем у залежнасці ад стажу работы на вытворчасці.

На нашу думку, толькі самі работнікі і іх прафсаюзы могуць адстаяць свае правы і магчымасць працаваць у нармальных умовах. Калі цяпер не супрацьпаставіць дэкрэту працоўную салідарнасць, то ўжо заўтра работнік застанецца сам–насам з наймальнікам. І ніхто яго ўжо не абароніць, у тым ліку, ад далейшага «закручивания гаек» у наступных кампаніях па ўмацаванні працоўнай дысцыпліны.

*Віктар КРЫВОЙ, доктар юрыдычных навук,*
*Міхаіл ПАСТУХОЎ, доктар юрыдычных навук.*

### СПРАВЫ ГРАШОВЫЯ

| 12 жніўня 1999 г. | | 12 жніўня 1999 г. | |
|---|---|---|---|
| 1. Курсы валют НБ РБ: | | 1. Курсы валют НБ РБ: | |
| Долар | 273000 | Долар | 275000 |
| Марка Герм | 149583,78 | Марка Герм | 148204,98 |
| Літ | 68235,50 | Літ | 68767,19 |
| Рас. руб. | 10940 | Рас. руб. | 11170 |
| Злоты | 69298,13 | Злоты | 69470,76 |
| ЕЎРА | 292560,45 | ЕЎРА | 289863,75 |
| 2. "Вулічныя" курсы куплі долараў: | 450000 – 465000 | 2. "Вулічныя" курсы куплі долараў: | 460000 – 480000 |

